# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Студзень 1937 г. № 1 (100).

1911и
2726
бел

М. МАШАРА

* * *

*Песьня, песьня зьвіні весялей.
Ярка зоры у небе гараць,
Сьнег мяцеліць з пад быстрых саней,
Ёмка коні па сьнегу ляцяць.*

*Ап'янеўшы разгульлем званок,
Пад дугою вясёла зьвініць.
Мкніце коні — прастор наш шырок—
Мкніце — полым у сэрцы гарыць.*

*Я тутэйшы вясковы хлапец,
Хачу радасьць узяць у палон.
Дзе жыцьцё чарапахай паўзець,
Пачаў песьні пяяць пра разгон.*

*Абнімуся я з кожным віхром.
Навальніцу сястрой назаву —
Чымсьці сон ўжо браць за жыцьцё,
Лепш ў разгоне скруціць галаву.*

Н. ЖАЛЬБА

## МОЙ НАРОД.

*Я у песьнях цябе выслаўляю
I у думках жыву я табой,
Шчасьліў тваім шчасьцем бываю
I плачу тваею сьлязой.*

*Жывеш ты—і я ўжо бадзёры
Шагаю да радасных дзён,
Што зломяць няпраўды запоры
I зьнішчаць вяковы праклён.*

*I цьвёрдую ў сэрцы надзею
Нясуць перамогі над злом,
Што выбіць ніхто не здалее
Турмою, жалезам, агнём!*

## НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

* * *

*Над мутнай вадой каляінаў,*
*Над бурай саломяных стрэхаў*
*У страху*
*Касматыя елкі*
*З іглястага футра галінаў*
*Выцягваюць сінія пальцы*
*У цёмнае неба.., ў кацелкі.*
*Там зоры гуляюць, як мальцы:*
*Блісьне, заіграе, сарвецца,*
*Пакоціцца зорка*
*І згіне...*
*Здаецца на мокрай галіне*
*Завісьне... Згарыць, расплывецца.*

*І зноў так спакойна і сіне,*
*Так зорна*
*У небе прасторным,*
*Як можа быць толькі увышы*
*Асеньняю цішсй.*



## НІНА ТАРАС

* * *

*Разьвіталіся, вёска, з табой,*
*Эх, жыцьцё, думы-песьні парваныя.*
*Будзеш казкай драмаць ты зімой,*
*Мне-ж — дарогі сьнягамі загнаныя*

*Помню, днела... І вецер, і дождж...*
*Чыесь сьлёзы зьвінелі так блізкія:*
*— Не чакала... папраўлюся мо',*
*Пайшлі-б разам, дарога хоць сьлізкая.*

*Доўга вецер з травой гаварыў,*
*Ды ўзмахнуўся над мокрымі нівамі,*
*А у лесе сасоньнік стары*
*Падзівіўся галовамі сівымі.*

*Разьвіталіся, вёска, з табой*
*Не ўзадоры, яшчэ мо' спаткаемся,*
*Як уздымуцца грудзі палёў,*
*Як маторы на нівах скупаюцца.*

*Дзень устане па раньняй зары*
*Ды прачнецца над хвалямі-нівамі,*
*А у лесе сасоньнік стары*
*Паківае галовамі сівымі.*



*Здаецца яшчэ ня так даўно выдавалі мы першы невялічкі, скромненькі нумар „Шляху Моладзі“, а вось ужо маем іх цэлую сотню і блізу 8-м год саматужнае выдавецкае працы. За гэты час „Шлях Моладзі“ сапраўды вырас, здабыў шырокую папулярнасьць і падтрыманьне сярод беларускае моладзі. За гэты час выдалі мы так-жа тры цэнныя кніжыцы, як: „Палітычныя кірункі ў мінуўшчыне і сучаснасьці“, „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня“ і „Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі“. І сяньня, няхваля́чыся, можна сказаць, што „Шлях Моладзі“ зьяўляецца паважнай пазыцыяй у беларускім адраджэнскім руху.*

*На працягу 8-мі год існаваньня „Шлях Моладзі“ спатыкаў многа розных нягодаў. З аднаго боку, многа было стратаў з прычыны канфіскатаў і судоў, з другога-ж боку — ад крайніх радыкалаў і з Менску — сыпаліся часта беспадстаўныя паклёпы. Усё гэта аднак мы пераможна перанясьлі і прыступаем да працы ў новым 1937 годзе. Што гэты год нам нясе і як праца далей будзе йсьці, цяжка згадаць. Але можна ўжо сьцьвердзіць, што сёлета бяромся за працу ў абставінах сапраўды нязвычайных.*

*Ува ўсім бадай сьвеце няма супакою. Гутаркі аб вайне стаюцца што-раз больш праўдападобнымі. На родным-жа беларускім палетку задуха. Няма ўжо ніводнае бенарускае культурна-асьветнае арганізацыі. БІГіК і ТБШ зьліквідаваны. Найстарэйшая газэта „Беларуская Крыніца“ спынена і новая ня мае магчымасьцяў выйсьці. Некалькі-ж адзінак, наслухаўшыся розных фашыстаўскіх і польска-эндэцка-ксяндзоўскіх басьняў, ідуць іхняй дарогай, нічога пазытыўна-беларускага ня робячы, сілком дзеляць беларусаў на розных „філаў“ і „ор'енталістаў“, прыпінаючы адначасна усім, хто ня з імі, кляймо камунізму ці „людовага фронту“. Акцыя гэта не абмінула і „Шляху Моладзі“, якому ўжо падсоўваюць розныя беспадстаўныя прытычкі і нябыліцы. Ясна, работа гэткая нягодная і вядзе да ністажэньня таго, што было будавана цэлымі гадамі і агульна-грамадзкімі беларускімі натугамі.*

*Ці ўсё аднак сапраўды так жудасна выглядае, як здаецца на першы пагляд? Не! Бо вось маем і іншыя жаролы, каторыя зусім інакшай гавораць. — 30.000 экзэмпляраў „Беларускага Адрыўнога Календара на 1937 год“ выданага ў Вільні, даўно ужо не хапіла. „Першыя Зярняткі“ — беларуская граматка для дзяцей — разходзяцца што-раз шпарчэй. Не забываюць таксама бел. бацькі аб патрэбе роднае беларускае школы. — Што гэта значыць? — Гэта значыць, што Народ Беларускі жыве, а культурная беларуская праца, хоць хатнім, саматужным спосабам, але разьвіваецца далей. Калі-ж да ўсяго гэтага будзем дакладаць больш энэргіі, дык адраджэнскі беларускі рух будзе йсьці далей нястрымана і пераможна да свае мэты...*

*„Шляху Моладзі“ з яго дасюлешняга незалежнага беларускага становішча ня змогуць сьпіхнуць ніякія дывэрсіі. Нашай пуцяводнай зоркай далей будзе Акт 25-га Сакавіка 1918 году. Нашымі прынцыпамі і далей будуць прынцыпы дэмократыі. Наша мэта — праца для Беларускага Народу, для палепшаньня яго долі і быту. І да гэтай працы заклікаем усіх, а перад усім усю беларускую моладзь!...*

*Я. Н.*

S. Chmara

## KARNAVAŁ

Afiš padkasanaj kakotaj
Na bal uzyvaje karnavał! —
Balončykaŭ pjanyja ŭžloty —
Džasbandu zvarjacieły šał. —

...Śmiajecca hadami neonaŭ
I ciahnie zmanami vitryn.
I śpieŭ klaksonaŭ ŭ aŭtaŭ honie
Žmiašałaś ŭ pjanuju kadryl.

— — — — — — — —

A tam, miž čornych... šerych... łužaŭ
Raśsieliś chatki čaradoj,
Za lichtary im miesiac słužyć,
Tam karnavałač ždziek z biadoj.

Na kiškach hoład džazam hraje
I pjanić ich hałodny tyf. —
Miaciel im radyjem śpiavaje —
Bahactva — dva, try załatych...

. . . . . . . . . . . . . . .

J. Kryha

## PIERŠY ŚNIEH

Vasieńnija viatry — kudłatyja sabaki —
Parvali radaść sinia-soniečnu maju,
ŭkočali ŭ hraź jaje lichija vaŭkałaki,
Kašmarnaj chmaraju naviejali tuhu...

Raspłakalisia dni maje — sivyja vočy
Nad brudnym vob'ikam i halitoj ziamli,
Nad horkaj rospačču daŭhoj vasieńniaj nočy
I nad biassillem dreŭ, jakich viatry zmahli.

U dzień tužlivy jznoŭ ŭśmichnułasia mnie radaść—
Byŭ hetai łaskaj biełaj cichi miły śmiech:
Z uzvyššaŭ jon pačaŭ kružycca j padać
Latunkaj jasnaju na ziamlu — pieršy śnieh...

Jon uśmichaŭsia nad tuhoju i niahodaj
I bajaŭ bajki-čary, jak u dziŭnym śnie,
Ab vosieni prachodziačaj i ab zimie chałodnaj,
Ab biełych choramach... ab soncy i viaśnie...

Dy sum zaŭtoryŭ jznoŭ, jak vietru śvist panury—
Ab ŭsim prachodziačym, ab žyćci ludzkim vyŭ...
Ja hnać-by rad jaho miacielicaju-buraj,
Dy śnieh u hraž upaŭ... Tamu mo' j sum toj byŭ...



## А. БЯРОЗКА

* * *

*Я люблю цябе, вечар, за цень перажытага дня —*
*золата шчодра па небе разьлітае:*
*моўкне поле і ціхне нябёс глыбіня,*
*ціха тухнуць у сэрцы надзеі аджытыя...*
*І, о вечар, люблю цябе за кветак, лісьця перазвоны*
*і за песьню, што жнеі пяюць, ад сярпоў разагнуўшы стан*
*ідучы грамадою з ніў каласяных убогіх загонаў,*
*рукавом уціраючы пот... І за сівы, сівы туман*
*разасланы над лугам... За зоры нябесныя, ясныя...*
*І за ціш, што нясеш ты змучаным, стомленым, сумным, няшчасным,*
*і за чыстыя сьлёзы расы, што патайна ты льлеш на ральлю*
*я, о вечар, цябе люблю.*

## УЛ. КАЗ—ВІЧ

### ПЕРШЫ СЬНЕГ

*За ударам шле удар*
*Сівер у прасторы,*
*Тчэ на небе з чорных хмар*
*Цёмныя узоры.*
*Стрэхі мокрыя дзярэ,*
*Сумам нейкім сее.*
*Пачалася на двварэ*
*Сьнежная завея.*
*Паляцелі матылі*
*Із вышы прастораў,*
*Забялеліся ў далі*
*Чорныя разоры.*

*Сьцеле мяккую пасьцель*
*Сьнег усім пад ногі.*
*Абхапіла ўсюды бель*
*Сьцежкі і дарогі.*
*Аж прыемна паглядзець,*
*Зірнуць навакола.*
*Выдаецца гэты сьвет:*
*Радасным, вясёлым.*
*Там ялінка, там кусток,*
*Пад сьнегам аж гнецца,*
*Воддаль хвойкавы лясок*
*Ну проста сьмяецца.*

*Прыйшла зімка ўжо да нас,*
*Із холадам разам.*
*Сваім рыцарам яна*
*Ужо дае прыказы.*



# І М Г Л О Й.

*Прылівам ноч прыйшла з усходу.*
*Імгла чупрынай акіяну*
*зьлізала вуліцы народу*
*рэклям хварбованыя раны.*

*Ды вецер крыльлямі залопаў,*
*падняўся вежаў сіні камень*
*і рос, над хвалямі натоўпу,*
*цягнуўся ў зорны шлях рукамі.*

*І дзесь, з рабочага кварталу,*
*крычалі хрыплыя сырэны,*
*як быцццам пад вадою скалы,*
*ўзьнялі трывогу пенай.*

*А калі месяц на падмогу*
*падняўшы белы парус выплыў:*
*ў імгле былі крыжы, вастрогі,*
*гудкоў фабрычны голас хрыплы.*

*Толькі зары над шахтай, домнай*
*ня змылі акіяну бровы —*
*яна гарыць у імгле чырвонай*
*архіпэлагам каляровым.*

*Замоўкла ўсё... у бульварах толькі*
*цень ночы клаўся мокры ліпкі:*
*вышэй — імглы падзёртай столкі,*
*ніжэй — жабрацкі голас скрыпкі...*

*На горле вуліцаў і хатаў*
*сьціскае сіні голад пальцы*
*і слова кожнае плякатам*
*гарыць на стоптаным асфальце.*

*Далёка зорны шлях прыліву*
*застыў, як долі вал дзевяты,*
*падняўшы зоры пенай грывы*
*і парус месяца шчарбаты.*

*Гляджу: паўзе імгла на захад*
*прыбоем зьмораным і шэрым.*
*Гадкі ударылі з размахам*
*ў зары чырвоны дальны берag...*

Атвоцк, 3.І.37.



Алесь Рымчук

# Пясьняр сялянскай Беларусі

*(Аб літаратурнай творчасьці Міхася Машары).*

*Адзін я з тых першых*
*Устаўшых вяскоўцаў*
*Прачнуўся і вершам*
*Спаткаць хачу сонца.*

Гэтак кажа аб сабе Міхась Машара ў адным сваім вершы, вызначаючы гэтымі славамі сваё поэтыцкае аблічча. Бо і ўзапраўды зьяўляецца ён адным з тых многіх, якія выйшлі з пад саламяных беларускіх стрэхаў і непамернымі высілкамі разбудзілі і разьвілі саматужна свой творчы талент, каб і надалей астацца пад тымі-ж стрэхамі і будзіць народныя масы.

Міхась Машара пачаў пісаць у 1928 г., а сяньня ўжо зьяўляецца аўтарам аж дзесяці асобных выданьняў літаратурных твораў і зборнікаў, калі ня браць пад увагу цэлага мноства вершаў, друкованых у розных часапісах, якія яшчэ асобна нявыданы. Міхась Машара, здабыўшы толькі элемэнтарную школьную асьвету, патрапіў падняцца на даволі высокую інтэлектуальную і артыстычную роўню, даючы літаратурныя творы такой якасьці, што прадстаўляюць яны вялікую вартасьць нятолькі для сучаснага жыцьця, але бяспрэчна пакінуць па сабе незацёрты сьлед ува ўсей нашай літаратуры. І напасьледак, хаця Міхась Машара знаходзіцца ў нявымоўна цяжкіх абставінах матар'яльных, змог аднак поўнасьцю пасьвяціцца літаратурнай творчасьці, за што здабыў сабе аграмадную папулярнасьць як сярод беларускай інтэлігенцыі, так і масаў. Сьведчыць аб гэтым вялікае запатрэбаваньне на ягоныя творы, што некаторыя зборнікі, нядаўна выданыя, ужо разыйшліся, сьведчыць так-жа і тое, што аб яго творчасьці шмат пісалася ня толькі ў беларускай прэсе ў Вільні, але ў Усходняй Беларусі, а так-жа літаратары украінскія і польскія пасьвяцілі яму многа ўвагі.

Як было ўжо сказана, Машара зьяўляецца перадусім песьняром сялянскім, а сфэрай яго зацікаўленьняў ёсьць беларуская вёска: яе жыцьцё, настроі і імкненьні. Ён сьвядома замацоўвае цесны кантакт з сялянскімі масамі, каб, пераняўшыся ўсей жудасьцю і нядоляй ягонага жыцьця, паказаць новы шлях народушляхам барацьбы за людзкія правы. І ўжо ў адным з найранейшых сваіх вершаў, зьмешчаным у зборніку *Малюнкі* з 1928 г., ён сьмела заяўляе:

*Мае дзяды згіналі каркі,*
*Цярпелі зьдзек і ласку палкі.*
*Хачу ўзыйсьці на шлях другі*
*Я сын галоты і цямры!*

*Цярпеньне прэч! Ня час на [стогны,*
*На енкі, сьлёзы і праклёны.*
*Здабыць хачу жыцьця правы—*
*Я сын галоты і цямры!*

Аднак сучасная вёска, з яе цяжкім і жорсткім жыцьцём, мала знаходзіць месца ў творчасьці Машары. А шкода. Бо напрыклад такія вершы, як *З траплом у руццэ*, *ў старой, старой адрыні*, як *Вясковая хата* ці *Чорны госьць* і інш., у якіх поэта малюе рэалістычнымі хварбамі ўзапраўднае сялянскае жыцьцё, соцыяльнае і

нацыянальнае прыгнечаньне Беларуса, належаць да лепшых у яго творах.

Затое многа ўвагі прысьвячае Машара будучай Беларусі, калі яна, ськінуўшы з сябе кляймо нядолі і цярпеньня, узыйдзе на новы шлях, „На сонечны бераг.“ І поэта сьніць аб гэтай шчасьлівай і сонечнай будучыні, мроіць аб ей, як даўно чаканым шчасьці, бачыць яе, як нешта ўжо блізкае і рэальнае. І ў цыклю прыгожых і бадзёрых вершаў *На прадвесьні* вычувае ён, як гэтая будучыня зьвініць ужо магутнай песьняй, калі гавора:

*У мінулым—цямра беспрасьвет-*
*[ная,*
*І сучаснасьць—паход пад крыжом.*
*Толькі песьні зьвіняць прадрас-*
*[сьветныя:*
*Уставай, падыймайся, пайдзём!*

Гэтае ўяўленьне поэтам новага, шчасьлівага жыцьця, што ўжо набліжаецца, родзіць у душы ягонай многа радасьці і сьветлых надзеяў. Цяжкая і ахвярная барацьба ўжо нястрашная, калі відаць за ей перамога. І дзеля гэтага поўны магутнай бадзёрасьці і оптымізму Машара пяе:

*Моладасьць наша бурлівая!*
*Ты ў нас—адна барацьба.*
*Глянь-жа! Ці-ж мы нешчась-*
*[лівыя?—*
*Радасьць—у бурах жыцьця!*

Другой крыніцай творчасьці Машары і ягонага оптымізму ёсьць хараство беларускай прыроды, якой поэта пасьвячае многа месца і ўвагі. Гэта зусім зразумела, бо Машара, як пясьняр вёскі, блізка зжыўся з прыродай, найбольш чула можа зарэагаваць на яе хараство. Прырода родзіць у ім многа захапленьняў і сьветлых думак. Зрадніўшыся з ей і загледжаны ў яе чар, забываецца ён аб сваім асабістым і народным горы, мроячы аб шчасьці і радасьці. І ён пяе:

*І хочыцца стаць на каленькі*
*Прад дзівам прыгожым вясны.*
*Такім сябе чую маленькім*
*Між гэтай жывой, пераменнай*
*[красы.*

*О, край пералескаў зьвінячых!*
*О, поле рунеючых ніў!*
*Я рады,*
*Што тут, хаця з торбай жаб-*
*[рачай,*
*Мне лёс вандраваць прысудзіў.*

Як бачым хаця-бы з гэтага кароткага і няпоўнага агляду, Машара зьяўляецца перадусім поэтам лірычным. Трэба аднак адцеміць, што і ў іншых кірунках літаратурнай творчасьці з добрым вынікам праявіў ён свой талент. І так на асаблівую ўвагу заслугоўваюць яго эпічныя поэмкі; з пасярод іх найлепшай зьяўляюцца *Русалкі,* друкаваныя ў зборніку „На прадвесьні,“ і выданыя асобна: *Вясельле, Мамчына горка* і *Сьмерць Кастуся Каліноўскага.* Апрача апошняй, усе яны зьяўляюцца аснаванымі на беларускай народнай творчасьці і з гледзішча артыстычнага прадстаўляюць даволі багаты разьдзел у творчасьці нашага поэты.

Апрача гэтага Машара пісаў і драматычныя творы. Выдаў ён дзьве аднаактовыя камэдыі *Вось тут і зразумей* і *Чорт з падпечча,* а так-жа трохактовую драму *Лёгкі хлеб.* Апошняя вызначаецца вельмі цікавым і актуальным сюжэтам і зьяўляецца паважным укладам у нашу драматычную літаратуру. Напасьледак варта ўспомніць, што ў розных беларускіх часапісах мы знойдзем даволі шмат і прозаічных твораў Машары. Гэта пераважна кароценькія рэалістычныя апавяданьні з сялянскага жыцьця, альбо лірычныя імпрэсыі рознага зьместу.

У канцы трэба коратка задзержыцца над артыстычнай вартасьцяй Машаравай творчасьці і яе значэньнем для нашае літаратуры.

Няма сумніву, што Машара мае вялікі талент і творчы размах, хаця вельмі часта ў яго творах адчуваецца самавуцтва і нястача літаратурнае культуры. Гэтак многія ягоныя вершы маюць тэхнічныя недахопы, паэта ў малой меры паслугоўваецца рознымі мастацкімі прыёмамі, як мэтафарамі і інш., слаба працуе над удасканаленьнем і ўзбагачэньнем поэтыцкага языка. Аднак гэтыя заганы не зьяўляюцца вельмі страшнымі, калі ўсьведамім сабе, што Машара на шляху дасюлешняй творчасьці ўсьцяж расьце і разьвіваецца. Калі прагледзіць хронолёгічна ўсю ягоную лірычную творчасьць, як найбольш характэрную для Машары, ад зборніка *Малюнкі* (1928 г.) праз зборнікі *На сонечны берег*(1934г.) і *На прадвесьні* (1935 г) аж да вершаў найнавейшых, якія сёлета выйдуць новым зборнікам, то заўважым вельмі вялікі поступ. У гэтых вершах мы ўжо ня знойдзем артыстычнага прымітывізму і аматарства. Пясьняр цяпер паважна працуе над тэхнікай верша, а ўжываючы цэлага роду арыгінальных мастацкіх прыёмаў, перадусім мэтафораў, асягнуў пластычнасьць і вобразнасьць свайго стылю. Можа аб гэтым сьведчыць хоць-бы наступная строфка з найнавейшага верша Машары, друкаванага ў мінулым нумары „Шляху Моладзі:“

*Зморань вецер на вербе заснуў,*
*Чуць-чуць калышыць бярозы.*
*Я наша гора тапіць панясу,*
*Беды павешу на лозы.*

Вось-жа, бяручы пад увагу ўспомнены рост Машаравай творчасьці і яе сыстэматычнае даскаланеньне з гледзішча артыстычнага, трэба верыць, што Машара і далей будзе ўсьцяж расьці і разьвівацца. І калі раўналежна з гэтым будзе ён у сваей творчасьці штораз шырэй і глыбей зрадняцца з жыцьцём беларускае вёскі, будзіць веру ў уласныя сілы і надзею перамогі ў цяжкой барацьбе, то яшчэ ў большай меры заслужыць на пачэсны назоў Песьняра Сялянскай Беларусі.



## Za prava da pracy

Biezraboćcie moładzi — heta adno z najbolš balučych pytań niaŭ sučasnaści. Hetaj spravie siańnia mnoha ŭvahi paśviačajuć amal usie hazety, časapisy, palityčnyja ŭhrupavańni i ŭłady. Bo-ž sapraŭdy, badaj bolšaść usiaho maładoha pakaleńnia nia maje pracy, nia moža addać svaich siłaŭ i energii dla tvorčaj pracy ahułu i zdabyćcia srodkaŭ utrymańnia. Štohod kala 200 tysiač moładzi kančaje ŭ Polščy pačatkavyja, siarednija i prafesyjanalnyja i inšyja škoły. Ale tolki niaznačny pracent ich patrapić zdabyć sabie jakujuniebudź pracu, abo mahčymaści dalejšaj vučoby. Na vioscy-ž, pavodle abličeńniaŭ napoŭaficyjalnaha časapisu „Rolnictwo“, jość nia mienš jak 8—9 miljonaŭ „lišnich ludziej“, heta značyć biezrabotnych — biez ziamli, pracy i srodkaŭ da žyćcia. Značnaja čaść hetaj mnohamiljonaj armii heta moładź. — Heta ŭ Polščy naahuł. A ŭ nas, na h. zv. „Kresach“ jašče mnoha horš. Bo j školaŭ u nas

mienš, a svaich biełaruskich blizka što i zusim nie zastałosia, sialanskaja ziamla ŭ nas horšaja, a vializarnaja častka našaha sialanstva zusim jaje nia maje, abo vielmi małyja i vuzkija pałoski. Jechać u miesta naš sielanin nia moža, bo i tam tysiačy ludziej siadziać biaz pracy.

Kaliści možna było choć emihravać, vyjaždžać zahranicu. Šukaŭ tady biełaruski sielanin „ščaścia" ŭ dalokich krainach Ameryki, abo bližej — Uschodniaj Prusii i inš. Siahońnia i vyjaždžać niama dzie. — A vialikaja armija biezrabotnaj moładzi nie atrymlivaje navat nijakaje pomačy. Navat dakładna nia viedama, kolki jaje jość, bo-ž u biurach pracy, u hminach jaje nie rejestrujuć.

Byli i jość roznyja „lakarstvy" suproć biezraboćcia moładzi. Hitler z vialikim šumam załažyŭ hetak zvanyja „abozy pracy". Uviedzieny jany paśla ŭ Baŭharyi i ŭ inšych krajoch. Jak vynikaje adnak z zapiskaŭ, i artykułaŭ, i piśmaŭ moładzi, katoraja prabyvała ŭ hetych abozach, — žyćcio ŭ ich jość dalokim ad taho, što Hitler abiacaŭ napačatku. Jak pakazvaje praktyka, abozy henyja majuć na mecie nia stolki zapraŭdnaje źmianšeńnie biezraboćcia moładzi, kolki militaryzacyju hetaj moładzi, abchapleńnie jaje hitleraŭskaj dyscyplinaj i h. d.

Roznyja prajekty ŭ hetaj spravie majem i ŭ Polščy. Jość padobnyja abozy pracy i ŭ nas: u Vilenščynie, Horadzienščynie i inšych miascoch. Krytyčna ab ich adzyvaŭsia kaliś navat sanacyjny „Legion Młodych" i jahony orhan „Państwo Pracy". Vyabražeńnie ab panujučych tam adnosinach daŭ taksama artykuł, źmieščany ŭ vilenskim „Słowie", ab jakim u svaim časie pisałasia ŭ „Šlachu Moładzi". Ciapier-ža henyja abozy pracy ŭ Polščy majuć być rasšyrany. Apračа hetaha ŭsie zvolnienyja ad abaviazku vajskovaj służby (nadličbovyja, katehoryja C, D i inš.) majuc padlahać abaviazku: u praciahu 6 hadoŭ adpracoŭvać štohod niekalki dzion u padobnych abozach.

U suviazi z zimoj i pavialičeńniem liku biezrabotnych, ułady abviaścili h zv. akcyju „zimovaj dapamohi". Musim adnak ścvierdzić, što jak da hetaha času biełaruskaja biezrabotnaja moładź nie karystałasia amal nijakaj dapamohaj, tak i ciapier nie vydajecca nam praŭdapadobnym, kab pytańnie biezraboćcia možna było raźviazać darohaj padačak i składkaŭ.

Dumaju, što kab choć krychu ablahčyć dolu biezrabotnaj biełaruskaj moładzi, treba starejšuju sialanskuju moładź, katoraja chacieła-b uładzicca na vioscy i załažyć siamju — zaraz ža nadzialić ziamloj, dajučy joj pry hetym mahčymaść zabudavacca z biaspłatnaha budaŭlanaha matarjału. Zamiest-ža „abozaŭ pracy", raspačać treba šyrejšyja publičnyja raboty ŭ adpaviednaj kolkaści, z dahodnym zarabotkam i varunkami pracy, na jakija paklikać treba biezrabotnuju moładź.

Apračа hetaha treba viaści rejestracyju ŭsiaje biezrabotnaje moładzi vioski i miesta i vydavać joj choć adnarazova dapamohu, asabliva zimoj.

Jasna, što los moładzi ŭ vialikaj miery zaležyć ad jaje samoj. Moładź sama pavinna arhanizavacca, pavinna pieramahać isnujučyja trudnaści i damahacca prava da pracy i žyćcia.

*Małady biezrabotny biełarus.*

■ ■ ■

А. К.

## Тыя, што песьні служаць.

Родная беларуская песьня ў жыцьці і адраджэньні нашага Народу займае зусім асобнае пачэснае месца. Таму вельмі на часе будзе, хоць у кароткіх сло вах, пазнаёміцца з тымі нямногімі, што ў найцяжэйшых варунках асабістага бытаваньня гэтай песьні верна служылі і служаць.



РЫГОР ШЫРМА

Калі сягнуць думкай узад, да пары пачаткаў беларускага адраджэньня, дык сустрэнемся з такімі працаўнікамі над беларускай песьняй, як **Л. Рагоўскі** (паляк), **Ст. Шымкус** (літовец), **кс. праф. Т. Бразіс** (літовец), **Горжэльнянскі** (паляк). Да найнавейшай мінуўшчыны, нажаль, ужо належа і беларускі музыкалёг **А. Стэповіч** († 19 XII.1934).

А сучаснасьць?

Няма сягоньня ў нас магчымасьці прасачыць яе поўнасьцю; ня маем лучнасьці з усходняй часткай Беларусі і змушаны тымчасам агранічыцца да таго, што маем у беспасярэдняй блізкасьці, у граніцах сучаснай Польшчы. З пасярод жывучых тут і працуючых для беларускай песьні бязумоўна першае месца належыцца Рыгору **Шырме**, арганізатару і дырыгенту ведамага сягоньня Беларускага Хору ў Вільні.

Прозьвішча Шырмы ведамае сягоньня ня толькі чытачу беларускіх перад усім газэт, ня толькі тым, што чулі беспасярэдна сьпевы Хору пад ягоным кіраўніцтвам, але і тым тысячам, ці нават мільёнам, што слухалі і слухаюць гэтага Хору праз радіо.

Хто-ж такі Шырма ёсьць, як да сяньняшняга становішча дай-

шоў і якія ягоныя намеры на будучыню?

Радзіўся Рыгор Шырма ў в. Шакуны, Пружанскага пав. 8 студня (ст. ст.) 1892 году. Скончыўшы гарадзкое вучылішча у Пружане, Р. Шырма паступіў на двухгадовыя вучыцельскія курсы ў Сьвянцянах, якія кончыў у 1913 г. Прабыўшы год вучыцелям пачаткавых школ у Ганусе (каля Войстама) і ў В. Канюшанах (Лідчына), Р. Шырма ў 1914 годзе ўступіў у Седлецкі Вучыцельскі Інстытут, з якім эміграваў у Маскву і Яраслаў, дзе і кончыў навукі. Працаваў ад гэтага часу ў розных мясцох у школах, апошнім часам (1921 г) як кіраўнік школы II ой ступені у Варонежскай губ. На бацькаўшчыну вярнуўся ў 1922 г. і адразу апынуўся ў моры беларус кай народнай працы. У Вільню прыбыў Р. Шырма ў 1926 г. і стаўся тут вучыцелям беларускай гімназіі (сьпеў), прабываючы на гэтым становішчы да пачатку 1929 году. Неспакоі ў гімназіі і сумныя „рэформы Р. Астроўскага“ там-жа ў першую чаргу ударылі на Р. Шырме, які ад гэтага часу, выступіўшы з гімназіі, усёцэла пасьвяціў сябе культур най працы ў Т-ве Бел. Школы і працы над беларускай песьняй. На гэтым полі працуе Р. Шырма і да сягоньня.

Якія-ж сувязі Р. Шырмы з песьняй?

Маючы вялікі нахіл да сьпеву і музыкальныя здольнасьці, сьпяваў Р. Шырма ад дзіцячых гадоў у розных хорах і таварыствах. Фаховая вучыцельская адукацыя паглыбіла ў ім прывязанасьць да сьпеву яшчэ больш. Асаблівы ўплыў тут мела „Харавое Таварыства ім. Глазунова“ ў Яраслаўлі. Праца Р. Шырмы над песьняй беларускай на шырэйшую скалю пачынаецца ад таго часу, як ён стаўся вучыцелям Віленскай Беларускай Гімназіі. Аб гэтым сам Шырма расказвае гэтак: прыйшоўшы ў гімназію, знайшоў чужы рэпэртуар (у перакладзе): расейскі, нямецкі, польскі, пару песьняў беларускіх, у апрацоўцы старшых работнікаў на ніве беларускай музыкі. Нічога сучаснага беларускага ня было. І таму, хочачы прыступіць да работы паважна, трэба было зьвярнуцца да самых крыніц беларускай песьні, да народу. І Р. Шырма па гэтай дарозе пайшоў: сам пачаў зьбіраць словы і мэлёдыі народных беларускіх песьняў. Да апрацаваньня сабраных матар'ялаў трэба было знайсьці адпаведна здольных і прыгатаваных людзей. І тут Р. Шырма меў „шчасьлівую руку.“ У 1927 г., дзякуючы стараньням Р. Шырмы, над беларускай песьняй пачынае сыстэматычна працаваць шырока ведамы праф. К. Галкоўскі, у 1928 г. —а. Уладзімерскі, у 1932 г.—А. Грэчанінаў. Тут-жа трэба зацеміць, што і ў нядаўным выступленьні ў Вільні з беларускім рэпэртуарам ведамага сусьветнай славы сьпевака М. Забэйды ёсьць так-жа заслуга Р. Шырмы.

Але вернемся назад. Першае выступленьне Р. Шырмы з сваім хорам на віленскім беларускім грунце адносіцца да юбілею 20 ых угодкаў паэтыцкай творчасьці Якуба Коласа, ў 1926 г. Усьлед за гэтым пайшлі выступленьні дальшыя, вузеўшыя і шырэйшыя, з паміж якіх зацемім тут толькі хоць-бы памятны Вечар Славянскай Песьні, у маі 1928 г., самадзейныя канцэрты беларускай песьні ў розных першаклясных канцэртных залях і на эстрадах м. Вільні.

Апрача беспасярэдняе працы з хорам, Р. Шырма заўсяды памятаў аб патрэбах беларускіх хораў на правінцыі. З гэтай мэтай сабраў ён частку апрацаваных

песьняў і выдаў асобнай кніжкай п. н. „Беларускія Народныя Песьні“ вып. I, на мяшаны 4-га лосы хор. Цяпер ужо прыгатаваны да друку і другі сьпеўнік, так-жа для хору на 4 мяшаныя галасы. Прыгатаваны так жа і зацьверджаны да друку „Зборнік беларускіх песьняў для пачаткавых школ“ на 1, 2, 3, 4 галасы. Акрамя таго, мае яшчэ Р. Шырма да апрацаваньня вялізарны запас (больш тысячы!) сабой жа сабраных беларускіх народных песьняў з розных паветаў беларускага абшару, — з паветаў: Пружанскага, Косаўскага, Слонімскага, Горадзенскага, Ваўкавыскага, Аўгустоўскага, Беластоцкага, Пастаўскага, Вялейскага, Маладэчанскага, Наваградзкага, Ашмянскага, Дісенскага і інш. На апрацаваньне і тым больш на выданьне друкам гэтых проста бясцэнных беларускіх народных скарбаў найлепшая воля аднаго толькі чалавека ня можа выстарчыць. Тут патрэбна дапамога якогасьць арганізаванага асяродка, які меў-бы за заданьне культ беларускай народнай песьні. Гэткага асяродка тымчасам няма і гэта вельмі тармозіць продуктыўнасьць мазольнай і ахвярнай працы. Р. Шырмы. Не зважаючы на гэта Ён поўны аднак веры у лепшую будучыню бел. песьні і таму працуе для яе з усіх сіл.



А. ГРЭЧАНІНАЎ

Менш, на жаль, маем вестак аб другім заслужаным працаўніку для беларускай песьні і кампозытару **Антоне Валынчыку**, вучыцелю Беларускай гімназіі ў Наваградку. Апрача працы пры вядзеньні хору гімназіяльнага і агульнага, А. Валынчык зьяўляецца аўторам цэлага раду песьняў на словы беларускіх паэтаў, як Колас, Купала, Жылка і г. д. Выступленьні хору і аркестру А. Валынчыка, былі ў сваім часе ў Наваградку сапраўднай мастацкай стравай. Над народнай

песьняй А. Валынчык не працуе. Апошнім часам, у зьвязку з зачыненьнем Беларускай Гімназіі ў Наваградку і пераходам А. Валынчыка ў гімназію польскую там-жа, творчасьць ягоная на ніве беларускай з канешнасьці мусіла агранічыцца. З беларускага пункту гледжаньня вялікая гэта шкода.

Больш актыўных беларускіх працаўнікоў над пашырэньнем беларускай песьні ў нас так як і няма. Пры апрацаваньні-ж сабраных матар'ялаў вельмі дзейна супрацоўнічаюць успомненыя ўжо: праф. К. Галкоўскі(Вільня), праф. А. Грэчанінаў (Парыж) ды нябошчык ужо сяньня а. Уладзімерскі. (Новая Вілейка).

Аб музыкальнай ніве бел. наагул сказаць можна эвангельскім тэкстам: вялікая праца, але мала працаўнікоў. На гэту ніву трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, асабліва сягоньня, калі вядзецца няраз сыстэматычны рабунак беларускай народнай песьні. Конкрэтна кажучы, канешна патрэбны зараз-жа дзьве рэчы: арганізаваны цэнтр беларускай песьні і ўфундаваньне некалькіх стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў на аднэй з музычных консэрваторыяў.

## „Рэгіёнальныя калядкі".

На першы дзень каталіцкіх Каляд усе польскія радыё-станцыі надавалі музычныя аўдыцыі прысьвечаныя, Вялікаму Сьвяту Нараджэньня Хрыста. Вечарам мужчынскі квартэт з Львова распачаў рэгіянальную аўдыцыю двумя калядкамі — адна з Валыні, а другая з Падгаля. Хаця калядкі надаваліся на папсаванай польшчыне, але іхні украінскі характар вычуваўся вельмі яскрава. Выкананьне было простае, зьбліжанае да народнага прымітыву, але мілае і слухаць іх было прыемна. Далей надавалі: па дзьве калядкі з Пазнаня, Таруня, Катавіц, Кракава Выступалі кампазытары, хоры, салісты сьпеву, скрыпкі, флейты з арганамі і аркестрамі. Відаць было, што культурныя людзі пакультурнаму падыходзяць да Вялікага Сьвята Умеюць шанаваць і любяць традыцыі свайго народу. Затое перадапошняе выступленьне з Вільні, як неэстэтычна і некультурна выглядала ў параўнаньні з іншымі.

Па першае былі выбраны калядкі, якія зусім не адпавядаюць сваім зьместам ні псыхіцы, ні рэлігійным звычаям народаў нашага краю. Выглядала неяк надта вульгарна, асабліва калі Марыя, заводзіла спрэчку з Юзафам, каму пакалыхаць Сьвятое Дзіцятка:

— Józefie, Józefie, pokołysz dzieciątko.

— Nie benda, nie benda!—адказвае там нейкім хрыпатым і п'яным голасам на жаргоне радыёвай цёткі Альбіновай.

Хто, дзе, з якой гісторыі і ў якога народу зрабіў гэты абрыдлівы „выналязэк" проці Сьвятых Бацькоў?!

Па другое - самы сьпеў — гэта было нешта нялюдзкае. Тры мужчыны і адна кабета пад гармонік цягнулі хрыплым унісонам, як быццам ў апошняй стацыі п'янай чарачкі.

Вось што значыць, калі нейкім „палітыкам" з Віленскага Радыё захацелася выткнуць „нізшасьць" культуры Віленшчыны на ўсю Польшчу. І на гэта не зарэагавала польская крытыка, маўчаць польскія літаратары ў Вільні.

Калі сапраўды перастанем мы быць „польскім Сібірам".?

**Радіо-слухач.**



М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

Артыст сьпявак сусьветнай славы. Незраўнаны выканаўца беларускіх песьняў. Называюць яго „палескім" і беларускім Кепурай. Выступаў ён доўгі час ў Харбінскай опэры ў Манджурыі, пасьля ў Мілане ў Італіі, дзе здабыў сабе шырокі розгалас і ў Пазнанскай опэры. Цяпер жыве ў Варшаве, часта сьпявае ў радыё і на розных канцэртах. У Вільні сьпяваў у Дзень Бел. Культ.

## М. Забэйдзе-Суміцкаму

Сачу вачыма па газэце,
Пільную радыё праграм
І кожны вершык аб Забэйдзе,
Зьвініць мне песьняй нашай там.

Як бог красы! Ты — чарадзею...
Пявучых гукаў уладар.
Ты заўладаў душой маею,
Адкрыў ёй роднай песьні чар.

З табой я плакаў і сьмяяўся,
Над зьместам знаных песень мне,
Што ты нам брат— я—дагадаўся
І так удзячным быў табе.

І на руках сваіх з эстрады,
Цябе мы з думай пранясьлі,
Як зорку нашае пляяды,
Як сына нашае зямлі.

Няхай вандроўнаю камэтай,
Цябе вір сьвету панясе —
У сэрцы-ж брата і паэта
Твой сьпеў застанецца зьвінець.

І кожны раз, калі газэты
Ізноў раскажуць пра цябе,
Я буду рад — Міхась Забэйда,
Што наша песьнь з табой жыве.

*М. Машара.*

Таболы, 16.І 37.

---

Lavon Burałom

## Za rodnuju škołu!

Biełarusie, padymajsia!
Hodzi užo spaci —
Rodnaj škoły damahajsia
Dla svajho dziciaci.
Rodna škoła nie kalečyć
Dušy maładyja,
Jana vylečyć ŭ narodzie
Rany viekavyja.
Rodna škoła — to-ž fundamant
Pad naš dom narodny,
Dzie uskrasujecca pryhoža
Naš narod svabodny.

Rodna škoła naš ratunak,
Siońnia žyćcia meta;
Nie zdabyŭšy rodnaj škoły
Nia ubačym śvietu.
Rodna škoła jość bližejšaj
Dla dušy dziciaci,
Rodna škoła jość milejšaj
Ŭzhaduje, jak maci.
Ŭ rodnaj škole zrazumiełaj
Jość dzieciam navuka,
Rodna škoła, heta zaŭtra
Našaha zaruka.

Biełarusie, prabudžajsia!
Hodzi užo spaci —
Rodnaj škoły damahajsia
Dla svajho dziciaci.

# „Pamior z hoładu i biaśsilla“...

„U Kavalevie na stancyi pamior mužčyna niaviedamaha proźvišča. Jak akazałasia, byŭ heta biezrabotny... Dochtar ścvierdziŭ śmierć z hoładu i biaśsilla“. „Dzień dobry“ — № 332 z dn. 29.XI.36 h.

Nieprahladnaja ciemra vasieńniaj nočy złosna nasupiłasia nad panuraj ziamloj, mocna ŭpiłasia ŭ jaje svaimi čornymi kapciurami, ucisnułasia ŭ kožny, najmienšy navat kutok i tam prytaiłasia, čakajučy achviary, katoruju mahła-b spavić hustoj pavucinaj ciemry.

Vałavianaje pałatno chmaraŭ nizka pavisła nad ziamloj, pavialičvajučy ciemnatu nočy.

Liŭ drobny, byccam praz sita prasiejeny doždž i, stykajučysia z źmierzłaj ziamloj, taksama zamiarzaŭ. Vytvarałasia hetak skarupka lodu, katoraja z kožnaj chvilinaj usio taŭščeła i rabiłasia bolš ślizkaj.

Žudasna zavyvaŭ ściudziony sivier...

U hetkuju voś pahodu ciahnuŭsia vulicaj niejki čałaviek. Apošniaja lichtarnia, jakaja znachodziłasia ŭ hetym kancy horadu, aśviaciła jahonuju postać. Išoŭ jon nizka schiliŭšy hołaŭ i ad času da času ciažka ŭzdychajučy. Šeraja, padziortaja siarmiaha była raschrystanaja na zapałych hrudzioch tak, što vidać było hołaje cieła. Pasinieŭšyja ad choładu ruki byli ŭsunieny ŭ kišeń...

Vyjšaŭ za horad. Ciemra, katoraja na heta tolki čakała, kinułasia na jaho i ŭ adzin mament akutała nieprahladnym, čornym pakryvałam. Viecier złosna zavyŭ i raschrystaŭšy jšče bolš jahonuju adziežu, jara ściebanuŭ kalučym, drobnym daždžom u chudy tvar, u hołyja, vysachšyja hrudzi...

Nie zaŭvažyŭ hetaha. Išoŭ dalej. Tolki hałava apała jšče nižej, a pachilenaja postać zhorbiłasia jšče bolš...

Viartaŭsia damoŭ, lapiej kažučy — u svaju kanuru. Užo moža soty raz chadziŭ prasić, kab dali jakuju-niebudź pracu — daremna. Doma chvoraja žonka, vaśmiora drobnych dziaciej — čakajuć na svajho baćku, jak na zbaŭleńnie. Čakajuć na chleb. Ad hoładu pačali puchnuć. A jon? Užo šosty dzień jak nia bačyŭ u vočy navat zaplaśniełaj skarynki, ani hniłoj bulbiny što było—paźjadali, a bolš dastać było nieadkul. Prabavaŭ navat žabravać, ale ludzi prahnali adusiul. „Ruki maješ mocnyja — kazali — idzi i zarabi!“ Ale dzie zarabić?

Hłuchi jenk vyrvaŭsia iz zapałych hrudziej. Voś učora zrańnia, ustaŭšy iz svajho biarłohu, znajšoŭ najmienšaha,trochletniaha syna niažyvoha. Nia vytrymaŭ, biednieńki, choładu i hoładu. Biaz jenku, biaz kryku pakinuŭ niaprychi nuju ziamlu,dzie navat nia chočuć jaho abahreć, nakarmić, abłaskać... Voś najstaršy, dvanaccacihadovy syn, jahonaja radaść, jahonaja padpora na staryja hady, lažyć užo kolki dzion, jak kałoda, nie pavarušycca – zapaleńnie łohkich – a jon, baćka – biazradny. Hłuchi stohn, padobny da vyćcia henaha vichru, uskałychnuŭ kvołymi, zapałymi hrudźmi. Na adnu chvilinu pryastanaviŭsia, machnuŭ niejak biazdarna rukoj, padarvaŭsia, zrabiŭ krok napierad, paśliznuŭsia i jak padpiłavanaje dzierava, ciažka zvaliŭsia na abledzianiełuju ziamlu.

Nia prabavaŭ navat ustavać, sił nie chvatała. Dy i našto? Padpoŭz tolki pad razvalenuju ścianu niejkaj chaty, katoruju niaviedama kali pakinuli jaje haspa-

dary, skorčyŭsia ŭ kłubok i tak astaŭsia lažać...

Viecier dalej zavyŭ, jak lichi złydzień; zamitusiŭsia, bryznuŭ u lažačaha cełaj chmaraj drobnaha, kalučaha, vadzianoha pyłu, ablacieŭ kruhom chaty, sarvaŭ poŭstrachi, i prycich,... uznoŭ sarvaŭsia, zabušavaŭ, zakidaŭsia i ŭznoŭ zacich, zaniamieŭ...

Praz pradziortaje vałakno chmaraŭ zirnuła na ziamlu zorka. Jaje śviet upaŭ na lažačuju pad ścianoj, skorčanuju postać, na katoraj pačaŭ užo vytvaracca tonkaj skarupinaj lod. Śviet zorki dryhanuŭ, prasunuŭsia pa abledzianiełamu tvaru lažačaha, adbiŭsia ŭ jaho šklanych vačach, u katorych nie mahło ŭžo być čałaviečaj dumki, i źnik. Biazdušnyja chmary zavałakli čornym pałatnom nieba i schavali zorku ŭ svaich chałodnych abniaćciach...

Chałodny i biaźlitasny sivier žudasna vyŭ i naśmichaŭsia z ludzkoj doli...

Vaŭkavysk, 1.XII.1936 h.

ВАЛЕНТЫН ХОМКА

## ЗВОН-ПОКЛІЧ

*Бом-бом, бом-бом!.. Так звон зьвініць*
*На вежы цэркаўкі старой,*
*І гул ягоны ўдаль ляціць*
*Па паднябесьсю над зямлёй.*

*Пайшоў, паплыў паміж лясоў*
*Ягоны жаласны напеў,*
*Аж: недзе месьцінку знайшоў*
*І там замоўк ён і самлеў.*

*Народзе мой, ці чуў-жа ты,*
*Аб чым зьвінеў — гудзеў той звон?*
*Ён пакліч нёс, каб ты сваёй*
*Рукою ськівуў цьмы палон.*

*Дык-жа хутчэй! Ня плюшч вачэй,*
*Устань і ў тон крычы*
*Даволі спаць! Усе хутчэй*
*Вітайма сонца па начы.*

АНАТОЛЬ ІВЭРС

* * *

*Ўжо нізка сонца коціцца*
*У восенскую муць.*
*Лес чырваньню залоціцца —*
*Прарочыць нам зіму.*

*І часта ветры мокрыя*
*Зрываюць жоўты ліст*
*І ў даль шырокім вокругам*
*Разносяць па зямлі.*

*І на'т трава ня шастае*
*І ня шуміць рака, —*
*Чарнее гладзь купчастая —*
*Чарот і асака.*

*З палеткаў вее пусткаю,*
*Дзе сьпелі каласы.*
*З хмар валавянай хусткаю*
*Навесіўся масыў.*

*І думае і смуціцца*
*Над рэчкаю лазьняк —*
*Чакае як закруціцца*
*Зімовая вазьня.*

У № 13 (99) „Шляху Моладзі" за 1936 г. надрукавалі мы верш М. Танка п. н. „З пісьма ад Апалона", у якім ня бачылі нічога прaступнага і некарыснага для беларускай літаратуры. Верш аднак гэты выклікаў многа розных гутарак і нават нягодных прытычак. Восьжа даючы месца для абароны грам. М Танку, друкуем адначасна „Адказ на пісьмо ад Апалона , які ёсьць выяўленьнем пагляду М. Машары і некаторых іншых нашых супрацоўнікаў літаратараў. — Рэд.

# Адказ на пісьмо ад Апалона.

О, Апалон! Зайздросны божа...
Чым так разгневаны на нас?
Чаму наш сьпеў цябе трывожа?
Чаму бароніш так парнас?

Мэлёдый дзіўных бог магучы,
Пяяў красу жыцьця вякі,
А сёньня гнеўны і кіпучы
Пяеш пра бруд і „трыбухі".

Табе мы песьнямі няроўны.
Няхай мы толькі „рыфмачы",
Але
Тваей-жа ліры звон чароўны
Будзіў нас сонных у начы.

Мы дзеці беднага народу
(Ты з неба нас не разглядзеў)
І наш „сонэт" ня ліжыць ботаў,
Ня „шніцэль" нам хвалюе сьпеў.

Мы, пэўна, так, як ты ня ўмеем
Рукой па струнах зазваніць,
Але зярняткі што мы сеем
Не ў „капшукох" пачнуць
[усхадзіць.

Такі народ! (Даруй нам божа,
Што рытмаў ліпкі мак).
І яём ня так, як ты прыгожа,
Ды кожны тут табе — сваяк.

І ліст твой крыўдзіць нас, о божа!
Нас, верных слуг пявучых слоў.
(Ці сярод моладзі ты можа
Падпіў—і у хмелю пісьмо сплёў?)

**Міхась Машара.**

# Адказ на артыкул быццам аб паэзіі

**зьмешчаны ў „Бел. Фронце № 1 (10) п. н. „Мэты паэзіі" Ш.**

Я не хацеў-бы сяньня, з пэўных прычын, уваходзіць у дыскусію аб „мэтах паэзіі" Ня ведаю, хто такі міфічны гэрой гр. „Ш." З вялікага-ж загалоўку, а тымбольш з зьместу і тону ягонага артыкулу, можна сьмела сказаць, што гр. „Ш." мог з усякімі рэчамі мець дачыненьне, але не з паэзіяй. Пастараюся дзеля гэтага даць толькі пэўныя выясьненьні.

Перадусім і Апалон падлягае эвалюцыі, а тым больш нашы да яго адносіны і такі вынятак як гр. Ш. ня можа быць запярэчаньнем зусім натуральнага зьявішча.

Калі перш зварачваліся да Апалона па „натхненьне," дык нічога страшнага, што Апалон у XX в., гледзячы на рахітызм жрацоў „чыстай паэзіі," дае сам сацыяльны заказ. Ці-ж ня крычыць вёска: давайце творы з нашага жыцьця?!

І заўсёды, калі ворагі хочаць зьменшыць значэньне паэзіі ў жыцьці, дык б'юць па яе зьмесьце, па яе сувязі з народам. Праўда, яны гэта робяць у імя „вышэйшага мастацтва" і ў імя іншых падобных інстытуцыяў, але мэта тая самая — адарваць паэзію ад жыцьця, гэтым самым прытупіць яе лязо, настаўленае

супроць падобных „апякуноў“. Як відаць, і ў жрацоў „чыстай паэзіі“ ня зусім чыстыя заплеччы, ня кажучы ўжо аб руках.

*Нечага баяцца, што паэзія „зьніжыцца“ да сваіх крыніц—да пытаньняў дня: да маральных, сацыяльных, нацыянальных праблемаў, да мастацкага іх вырашэньня.* Гэта яе дарога! Ці-ж ня ў гэтым вартасьць вялікіх твораў сусьветнай літаратуры: Дантэ, Шэкспіра, Гетэ, Міцкевіча, Талстога, ня кажучы ўжо аб сяньняшніх волатах слова?!

Небясьпека па другой старане. Вершы тых паэтаў, якія адрэсавалі свае творы „у вечнасьць,“ усяк баронячыся ад сутычнасьці з эпохай, у найкарацейшым часе ня вытрымлівалі сваеи ,,місыі'' (І. Б—лаў).

Далей. Ніколі я ня ставіў стаўкі на арыгінальнасьць у разуменьні гэтага тэрміну гр. Ш., чым ня можа пахваліцца мой крытык. Ці-ж не ,,арыгінальна'' гаварыць аб А. Пушкіне, зусім яго ня ведаючы?

Кліч свабоднай творчасьці ня толькі ў часы Пушкіна, але і сяньня актуальны: тым больш, калі зазнаёміцца з статыстыкай канфіскат.

Гр-ну Ш. падабаўся верш Пушкіна ,,Поэту“ (цікава зазначыць, што гэты верш падабаўся і прыхільнікам панаваўшага тады ураду) гавора толькі аб тым, што паэт перажываў тады псыхічны пералом, у выніку чаго і зрадзіўся гэты верш. Але калі крытык робіць вывад з цытаванага вершу,дык мусіць прынамся траха больш зазнаёміцца з матарыялам: аб одзывах выкліканых гэтым ці іншым пытаньнем, у гэтым выпадку аб адзыве расейскай паступовай інтэлігэнцыі, у асобе Белінскага і ін. аб вышэй успомненым вершы Пушкіна.

Але Пушкін сам далей пісаў·

„Я памятник воздвиг себе
[нерукотворный,
к нему не зарастет народ-
[ная тропа...“

Пушкін цаніў любоў народу і ня мог ею не „даражыць“ так, як гэта зразумеў і хацеў уталкаваць гр. Ш.

Не хацеў-бы я тут рабіць энцыклёпэдычных выпісак, аб тым што такое „праўдзівая паэзія“ і паэзія, на якую паны, як гавора Ш., глядзяць з пагардай(?). Тут ня у тым віна, што адна паэзія „заказная,“ а другая „з нябеснага натхненьня,“як і артыкул паважанага крытыка. Пушкіна можна яшчэ было не зразумець— стогод як памёр,ведама,ня пры нас пісаў. Але мэты чыстай паэзіі“ і яе абаронцаў вельмі ясныя. А ўжо, на канцы, каму патрэбная аналёгія да „крывых“ і „простых“ ліній? Гэта ўжо зусім „чыстаму“ староньніку ,,чыстай паэзіі“ не да твару! Што да шляху творчасьці, якім мусіць ісьці беларускі паэт, дык для нас і бяз вашага пальца ясна, гр. Ш. Пойдзем з народам, крок у крок, поплеч, як ішлі да гэтага часу, шляхам сацыяльнага і нацыянальнага адраджэньня. Што, мо, не падарозе? І гэта зусім зразумела!

Атвоцк 14.I.37 г.

**Максім Танк.**



B. Čanuk.

# Katalonija

Uvieś śviet cikavicca ciapier Hišpanijaj, dzie biaz spynu pralivajecca kroŭ. Hišpanija stałasia arenaj strašnaj chatniaj vajny, jakaja ŭ svaich naśledkach moža być vielmi hroznaj dla ŭsiaśvietnaha miru. Ab Hišpanii mnoha ciapier čaho pišycca i havorycca. Bo i zapraŭdy jość heta duža cikavy kraj pad roznymi vidami.

całkom śviedamymi svajej nacyjanalnaj asobnaści, majuć užo značnuju kulturu i ŭžo ad niekatoraha času imknucca da svajej palityčna-dziaržaŭnaj niezaležnaści My tut chočam krychu bolš skazać pieradusim ab kataloncach i ichniaj staroncy Katalonii.

Katalonija aficyjalna źjaŭlajecca ciapier *aŭtanomnaj pravincyjaj*



Barcelona — stalica Katalonii.

Dla nas, biełarusaŭ, miž inšym, cikavy jaho nacyjanalny charaktar. Jašče da niadaŭna mnohija ličyli Hišpaniju adnanacyjanalnaj dziaržavaj. U zapraŭdnaści ž žyvie ŭ Hišpanii piać asobnych narodaŭ: kastylcy—panujučaja hišpanskaja nacyja, katalоncy, baski, halisijcy i andałuzcy Voś-ža ciapierašniaja chatniaja vajna daje mahčymaść palityčna-nacyjanalnaha vyzvaleńnia i samaaznačeńnia dahetul niedziaržaŭnym narodam u Hišpanii. Vykarystać hetuju mahčymaść uzialisia pradusim katalоncy i baski, jakija źjaŭlajucca narodami

Hišpanii. Svaim abšaram zajmaje 32 195 km², na jakim žyvie 2 mil. 144-tys. žycharoŭ.Jak aŭtanomnaja hišpanskaja pravincyja, abchaplaje jana tolki častku ziamiel, dzie nasialeńnie havoryć asobnaj katalonskaj movaj. Usich ža ludziej, havoračych pakatalonsku, jość daloka bolš u Hišpanii, bo až 4 mil. 693 tys. Katalonskaja mova heta adna z adznakaŭ nacyjanalnaj asobnaści katalоncaŭ. Katalonija źjaŭlajecca najbahaciejšaj krainaj ŭ Hišpanii. Raźvity tut mocna promysieł, handal i ziemlarobstva. Pryrodnyja bahaćci Katalonii pasłužyli adnoj

z pryčynaŭ žorstkaha paniavoleńnia i eksploatacyi jaje Hišpanijaj

Kataloncy heta stary kulturny narod, maje svaju słaŭnuju minuŭščynu. Raśćviet jaho staroj kultury prypadaje na XIV—XV st.; paśla hetaha nastupaje zaniapad jaje z pryčyny paniavoleńnia katałoncaŭ kastylcami. Nacyjanalny adradženski ruch katałoncaŭ pačaŭsia ŭ pieršaj pałavinie XIX v. Z pačatku tolki jak kulturny ruch, u druhoj pałavinie minułaha stalećcia nabiraje jon adnak palityčnaha źmiestu. Kataloncy pačynajuć zmahacca za svaju aŭtanomiju, jakuju častkova udałosia im asiahnuć u 1913 hodzie. Stała utrymać svajej chacia častkovaj aŭtanomii kataloncam nie ŭdavałasia jany jaje tracili niekalki razoŭ, až apošnim časam, karystajučy z chatniaj zaviaruchi, uznoŭ zdabyli. Ci ŭdasca im hetym razam utrymać jaje i zamianić u dziaržaŭnuju niezaležnaść, da čaho imknucca ciapier kataloncy, trudna skazać. Pamima ŭsiaho, sučasnaja baraćba kataloncaŭ za svaju dziaržaŭnaść nie zastaniecca biaz śledu. Mocnaja vola katalonskaha narodu žyć svaim samasto nym dziaržaŭnym žyćciom kali nie ciapier, dyk u budučyni dasiahnie svaje mety.

Biełaruski Narod u svajej historyi maje mnoha čaho padobnaha da historyi Kataloncaŭ, a stojkaść ichniaja ŭ baraćbie za svaju niezaležnaść moža być dobrym prykładam dla biełarusaŭ.

## Z frontu hišpanskaje chatniaje vajny.



Pałažeńnie ŭ Hišpanii za apošni čas badaj zusim nie źmianiłasia. Baraćba adbyvajecca pieradusim kala stalicy Madrytu. Paŭstancy dalej nijak nia mohuć pieramahčv ŭradavych siłaŭ i choć urad pieranioŝsia z stalicy ŭ m. Valencyju, jakoje vidać na źnimcy, to ŭsio-ž jana dalej jość u rukach uradavych siłaŭ. Hazety padajuć, što pa staranie ŭradu vajuje 40,000 čužaziemcaŭ (radykały z usiaho śvietu, najbolš z SSSR), a pa staranie paŭstancaŭ 32,000 — pieravažna niemcy i italjancy, ća navat japoncy.

## Što było-b, kali-b ziamla nia krucіłasia navakoł svaje vasi naŭskos?

Kožnamu viedama, što ziamla, chodziačy naŭkoł sonca, krucicca adnačasna kala svaje vasi, jakaja złučaje paŭnočny i paŭdniovy polusy, i što hetaja voś staić da sonca naŭskos, a nie staćma i nie raŭnaležna.

Adnak nia kožny dadumvajecca, naskolki važnym dla nas źjaŭlajecca hetaje adchileńnie ziamnoje vasi.

Voś-ža prypomnim, što čas, u jakim ziamla raz abychodzić navakoł sonca, zaviecca hodam. Kaniec hodu paznajom pa tym, što ziamnaja voś iznoŭ viartajecca da taho pałažeńnia, z jakoha vyjšła ŭ pačatku hodu.

Kali-b ziamnaja voś stajała raŭnaležna da sonca, tady kožnaje miesca ziamli było-by cely hod adnolkava addalena ad sonca i adnolkava abahreta. Nia było-b tady taho, što ciapier: kali Eŭropa addalajecca ad sonca — majem zimu, kali prybližajecca — nadychodzić leta. Nia było-b u nas leta, padčas taho, kali ŭ Paŭdzionnaj Amerycy tryvaje zima... Nie!.. Tady naahuł nia było b nikoli ni viasny, ni leta, ni vosieni, ni zimy!

Na Madahaskary była-b viečnaja haračynia, a ŭ Anhlii i Norvehii viečnaja, bieskaniečnaja zima... U nas, na Biełarusi, tryvała-b viečnaja vosień. Ptuški nie lacieli-b u vyraj i nie viartalisia-b nazad. Nikoli nia prylacieŭ-by da nas sałaviej, ani žaŭranak... Nie rasło-b u nas jaravoje zbožža, ani jahady, ani sadavina... Siejali-b tolki žyta dy avios, dy j to nie viadoma... Trava nikoli nie zazielanieła-b tak, jak ciapier viasnoju, abo letam. Staraja trava sochła-b, a maładaja prabivałasia b praz jaje... Na drevach viesnavyja pokaŭki (pupuški) raspuskalisia b pobač z sochnučym i suchim liściom. Adny listy viečna spadali b, a druhija pakrysie narastali b. Sonca nie padyjmałasia b vyšej, ani nižej. Ziamla vyhladała-b staroju, staroju, zakuranaju i nudnaju.

Ludzi viečna chadzili-b u adnolkavych vopratkach. Nichto nia znaŭ by, što takoje hod, bo nia było-b źmienaŭ pary hodu. I ŭsio heta tolki dziela taho, što ziamla krychu źmianiła-b nachileńnie svaje vasi... Ale pakul voś ziamli staić naŭskos, — možam spakojna ciešycca z zimy, viasny, leta i vosieni!

Andrej Čemier.

## Z žyćcia litoŭskaje moładzi

— „Jaunimo Draugas“ — litoŭski časapis dla moładzi, jaki vychodziŭ u Vilni da 1936 hodu raz na miesiac, ad pačatku 1937 hodu vychodzić užo što tydzień. Časapis hety maje vyhlad salidny i źmiest bahaty. Apošni, № 3, „Jaunimo Draugas“ Vilenskaje Haradzkoje Starastva skanfiskavała.

— Apošnim časam polskija ŭłady masava spyniajuć dziejnaść addziełaŭ litoŭskich kulturna-aśvietnych arhanizacyjaŭ u Vilenščynie, jak „Rytas“, „Kultura“, T-va św. Kazimiera i inš. Cierpić ad hetaha najbolš moładź, jakaja pryjmała masava čynny ŭdzieł u kulturnaj pracy henych arhanizacyjaŭ.



# Jak załažyć družynu biełaruskich skaŭtaŭ

Jak viedama, u Vilni pry Biełaruskaj Himnazii isnujuć dziaŭčackaja i chłapcoŭskaja biełaruskija skaŭckija arhanizacyi. Biełaruskija skaŭckija družyny jość aŭtanomnymi pry ahulna-polskaj arhanizacyi skaŭtaŭ i źjaŭlajucca jany arhanizacyjaj apalityčnaj, fizyčna i maralna ŭzhadavaŭčaj a dziela hetaha duža adpaviednaj dla biełaruskaj moładzi. U Vilni raźvivajecca jana davoli pamysna, zdabyła ŭžo navat sabie apieku i matarjalnaje padtrymańnie sa starany starejšaha biełaruskaha hramadzianstva, sarhanizavanaha ŭ Hurtku Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ. Voś ža pažadana, kab biełaruskaja skaŭckaja arhanizacyja pašyrałasia pa ŭsim našym Kraju. Dziela hetaha treba, kab biełaruskaja moładź na vioscy, uziałasia za arhanizavańnie biełaruskich skaŭckich družynaŭ.

Kab sarhanizavać biełaruskuju skaŭckuju družynu na vioscy ci ŭ miastečku, treba kab inicyjatar jaje naviazaŭ kantakt z užo isnujučymi biełaruskimi skaŭckimi družynami ŭ Vilni (Vostrabramskaja 9), ad katorych budzie mahčy atrymać najlepšyja infarmacyi ŭ spravie arhanizavańnia bieł. skaŭckaj družyny i arhanizacyi bieł skaŭtaŭ naahuł. Jasna, što najlepš bvło-b, kab arhanizataram ci zakładčykam bieł. skaŭckaj družyny byŭ nacyjanalna śviedamy biełarus. skaŭt, ci byŭšy skaŭt, abznajomleny z idejaj skaŭtynhu. Dziela załažeńnia adnej družyny na pačatak chopie 10 asob. Najlepš pačynać hetuju spravu spačatku ŭ mienšym kruzie, a paśla stupianiova treba jaho rasšyrać. Prystupajučy da samaha arhanizavańnia družyny paśla arhanizacyjnaj padhatoŭki treba zrabić aficyjalny arhanizacyjny ahulny schod achvotnikaŭ u skaŭty i na hetym schodzie abhavaryć i pravieśći spravu załažeńnia družyny. Treba tak ža vybrać kaho niebudź, najbolš abznajomlenaha z skaŭtynham, kiraŭnikom i jamu daručyć vykanańnie farmalnaściaŭ, źviazanych z załažeńniem družyny. Vybrany kiraŭnik-paŭnamocnik pavinien zaraz pasłać u „Komendu Wileńskiej Chorągwi Harcerskiej“ zajavu z prośbaj zaćvierdzić družynu i pryniać jaje ŭ Sajuz Polskich Skaŭtaŭ (Z.H P.), jak aŭtanomnuju biełaruskuju družynu. Da zajavy treba dałučyć śpisak, na jakim pavinna być padana zvyčajna na pieršym miescy imia i proźvišča kiraŭnika, jaho viek (kali byŭšy skaŭt, dyk treba padać skaŭckuju stupień), miascovaść i dakładny adrys, a dalej imiony i proźviščy kandydataŭ, viek i podpisy ich na znak zhody naležańnia da arhanizacyi biełaruskich skaŭtaŭ.

Kali skaŭckija ŭlady družynu zaćvierdziać, tady maje jana prava viaści svaju dalejšuju pracu.

Dyk, Braty Maładvja, da pracy! Skaŭckim šlacham, šlacham pracy dla svaje Baćkaŭščyny i svajho Biełaruskaha Narodu, a taksama pracy i dla bratniaha sužyćcia ŭsich narodaŭ, dojdziem da lepšaj budučyni!.. *Bieł. skaŭt.*

## Pryhožaja hramadzkaja praca biełaruskich skaŭtak ŭ Vilni

Biełaruskaja žanockaja skaŭckaja družyna pry Vil. Bieł. Himnazii (u min. hodzie pierad Kaladami) narabiła mnoha roznych padarkaŭ u formie adziežy i cacak dla dziaciej i razasłała hetyja padarki praz svaich siabrovak, na Kalady, najbiadniejšym biełaruskim dzietkam na vioscy. Praca heta sapraŭdy zasłuhoŭvaje na pachvału.

## Raźviazańnie Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury i Tavarystva Biełaruskaje Škoły

Vilenski Vajavoda zahadam z dn. 22.I.1937 h. raźviazaŭ, h zn. źlkvidavaŭ Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury i Tavarystva Biełaruskaje Škoły. Arhanizacyi hetyja ŭ min. hodzie byli „zaviešany" (spyniena časova ich dziejnaść) Vilenskim Haradzkim Starastvam. Pierad raźviazańniem BIHiK-u i TBŠ, vajavoda adkinuŭ jašče rekurs centralnych uładaŭ hetych arhanizacyjaŭ ad pastanovy Vil. Starastva ab spynieńni dziejnaści BIHiK i TBŠ.

Ciapier Biełarusy ŭ Polskaj Dziaržavie nia majuć ni adnaje svaje kulturna-aśvietnaje arhanizacyi... Jak-ža sumnaje i vymoŭnaje heta źjavišča...

## Biełaruskaja sprava ŭ polskim Sojmie

### Ukrainski pasoł Z. Pełenśkyj baronić Biełarusaŭ

Jak viedama, ciapier u Polščy adbyvajecca zvyčajnaja sesija polskaha Sojmu, u katorym niama nivodnaha biełaruskaha pradstaŭnika. Voś-ža na adnym z pasiedžańniaŭ u Sojmie, ukrainski pasoł Z Pełenśkyj vystupiŭ z haračaj pramovaj u abaronie Biełarusaŭ u Polskaj Dziaržavie. Havaryŭ jon ab spynieńni dziejnaści Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury i Tavarystva Biełaruskaje Škoły, ab začynieńni „Biełaruskaje Krynicy", ab likvidacyi biełaruskich škołaŭ i ahułam ab ciažkim pałažeńni Biełaruskaha Narodu dy ab polskaj palitycy ŭ adnosinach da jaho. Pramova pasła Pełenśkaha maje, biazumoŭna, vialikaje značeńnie historyčnaje. Biełarusy hetaje pramovy, — u jakoj, miž inšym, pasoł Pełenśkyj kazaŭ: „Pad-ju hołas u abaronie pravoŭ našaha bratniaha biełaruskaha narodu", — nie zabuduć.

Pramovu henu p. Pełenśkaha nadrukavali „Діло", „Неділя" i inš. ukrainskija časapisy. Staršynia-ž Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu vysłaŭ p. Pełenśkamu padziaku za abaronu biełaruskich spraŭ u Sojmie.

Pry hetym treba zaznačyć, što z polskich pasłoŭ padtrymaŭ pramovu pasła Pełenśkaha tolki **hien. L. Želihoŭski**, katory zajaviŭ vyrazna, što jon nie zhadžajecca z sučasnaj polskaj palitykaj adnosna Biełarusaŭ i ŭvažaje, što siła Polščy pavinna vyjaŭlacca ŭ tolerancyi...

## 25-tyja ŭhodki isnavańnia ukrainskaha skaŭtynhu.

U kancy minułaha 1936 hodu ukrainskaje hramadzianstva, a pieradusim moładź uračysta śviatkavali 25-ci-hodździe isnavańnia ukrainskaha skaŭtynhu, zvanaha paukrainsku „Płast". Niekalki hod tamu nazad „Płast" byŭ vialikaj i mahutnaj arhanizacyjaj. Nažal, polskija ŭłady jaho źlikvidavali Ciapier ukrainskija skaŭty jość u Čechasłavaččynie i ŭ tych krainach dzie jość ukrainskija emihranty.

Z pryčyny 25-ci-hodździa isnavańnia ukrainskaha „Płastu" ŭ Prazie Českaj adbyŭsia ŭ min hodzie ŭračysty źjezd ukrainskich skaŭtaŭ.

Skaŭtam bratniaha Ukrainskaha Narodu žadajem pamysnaha razvoju i pracy na karyść Ukrainy.

## Z KRAJU

### Vučymsia kirylicy.

v. Astrejki, Lachavickaje voł., Baranavickaha pav. Jak było ŭžo pisana ŭ „Šlachu Moładzi", starejšaja moładź našaje vioski sabr. ŭšysia hraje ŭ karty, abo padpiŭšy bjecca, a małodšaja, chočučy žyć paludzku, kulturniej, cikavicca ŭsim i starajecca palepšyć svoj byt. Dziela hetaha vypisali svaje biełaruskija knižki i hazety, nieznajučy ž kirylicy, paprasili chłapca Janku Bahdanoviča z v. Kaniuchoŭ, katory słužyć u adnaho z našych haspadaroŭ, kab navučyŭ našuju moładź čytać knižki drukavanyja kirylicaju. Voś ža, kali J. Bahdanovič pačaŭ moładzi pakazvać litary, dyk na druhi dzień byŭ aryštavany i pratrymany dzień i noč u Lachavičach, a paśla atrymaŭ z Baranavickaha starastva „nakaz karny" na 20 zał., abo na 14 dzion aryštu. Cikava i dziŭna sapraŭdy vyhladaje hety fakt pobač z pjanstvam i razbojem... Ale ŭsio-ž kirylicu my paznajem...

*Svoj.*

### О, наш „Шлях Моладзі", наш мілы!

О, наш Шлях Моладзі", наш мілы
З табой зрадніўся я з адным.
Ад ўсей люблю цябе я сілы,
Хоць бачу я цябе худым.

Калі „Шлях Моладзі" ты будзеш
Гасьцём у кождаго із нас,
Калі ўсю моладзь ты пабудзіш,
Што спала й сьпіць так доўгі час.

О, наша моладзь, прабудзіся —
Стань жыць у горы ты сьмялей,
Чытаць „Шлях Моладзі" вазьміся,
Із ім шмат будзе весялей.

О, наш „Шлях Моладзі", наш мілы,
Мы выйдзем ўсе адзін за адным,
Сваe прыложым мы ўсе сілы —
Цябе не аставім жыць худым.

в. Кашачы каля Пастаў. *Дубок.*

Ад Рэдакцыі: Верш гэты — карэспандэнцыю — друкуем без направак.

### У нас моладзь на бездарожжы.

Беражан, Стаўпецкі пав. Людзі ў нас пераважна бедныя. Арганізацыяў сваіх няма, з тое польскіх аж зашмат, хоць карь сьці з іх ніякай ня відаць. Моладзь справамі грамадзкімі, а таксама кніжкамі і газэтамі ня цікавіцца; п'янства-ж і разбой усьцяж пашыраецца. Проста жудасьць бярэ, калі прыходзіцца часта бачыць людзей абарваных, п'яных, ды часта пры століках розных жулікаў на рынках. Вясьці беларускую культурную працу, якая бязумоўна прыцягнула б моладзь, няма магчымасьцяў. Дзеля гэтага, з бачын „Шляху Моладзі" заклікаю ўсю моладзь выйсьці з гэнага цёмнага, заблутанага кола, з бездарожжа, на шырокі шлях культурнага жыцьця; узяць у рукі сваю беларускую газэту і кніжку, пачаць новае жыцьцё; ды працаваць на карысьць свайго Беларускага Народу!

*Камар.*

### Трэба сарганізаваць сельска-гаспадарскія карэспандэнцыйныя курсы.

в. Гаркавічы, Адэльскай воласьці, Сакольскага пав. Чытаючы ў „Шляху Моладзі артыкулы аб патрэбе земляробска гаспадарскай асьветы і ра умеючы яе патрэбу, ды адначасна знаючы цяжкія варункі нашага жыцьця, думаю што добра было б, каб рэдактар „Самапомачы" інжынер-аграном А. Клімовіч залажыў карэспандэнцыйныя сельска-гаспадарскія курсы. Гэткія курсы напэўна мелі б многа вучняў і былі-б вялікай помачай нашай моладзі ў здабываньні земляробскае асьветы.

*Вясковы чытач „Шл. Мол."*



## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Хведар Ільляшэвіч.* **Захварбаваныя вершы** 30 бач. З партрэтам аўтара. Фармат 16⁰. Цана 1 зал.

Пасьля „Веснапесьняў" і „Зорным шляхам", гэта ўжо трэці з чаргі зборнічак вершаў Хв. Ільляшэвіча. У прыраўнаньні да папярэдніх зборнікаў, трэба сьцьвердзіць, што малады наш пясьняр зраб ў вялікі поступ, асабліва калі ходзіць аб апанаваньне формы і аб мастацкія прыёмы.

Аснаўны тон апошняй Ільляшэвічавай паэзіі надаюць два асяродзьдзі, з якімі пясьняр цесна зросься: жывы, рухлівы, калёрны горад і простая, шэрая, родная вёска. Яны, як у прызьме, пераліваюцца разам у чулай душы паэта і выліваюцца ў містэрныя, вобразныя, а часта маестатычна спакойныя вершы. З іх так і чуваць, як песьняра штораз мацней залівае сваей стыхіяй горад, хоць яму ўсё яшчэ „шумяць каласы ў гонях *вулак* вясковым напевам", хоць усё яшчэ перад вачыма мітусяцца разам з „аўтабусамі" — „сена вазы". Сынтэза гэтых двух элемэнтаў унятая ў асаблівы, уласьцівы аўтару і толькі яму спосаб, згушчаная вобразнасьць, з многімі новымі і сьмелымі мастацкімі прыёмамі, свая арыгінальная рытміка— вось галоўныя, характэрныя асаблівасьці новых вершаў Хв Ільляшэвіча. Многія жаляцца на іх „незразумеласьць"; гэта справа вельадносная. Трэба аднак сказаць, што моцна згушчаная вобразнасьць прымушае няпрывыкшага да такіх вершаў чытача часта затрымацца, а нават і задумацца над імі. І таму вершы гэтыя чытаюцца ня лёгка, асабліва для таго, хто гадаваўся толькі на простых, „ясных" вершах „нашаніўскіх". „Незразумеласьць" гэтая адносная. Калі мы прыраўнаем іх да сучаснай польскай новай паэзіі (авангардовай)—пры ей яны аказываюцца вельмі простыя і вельмі зразумелыя

Апрача новай формы, Ільляшэвічава творчасьць звужае круг сваіх чытачоў і прыхільнікаў яшчэ і часта вузка мастацка-асабістым падыходам да жыцьця. Мала там хаця-б водблескаў тых імкненьняў і тэй культурна-нацыянальнай і соцыяльнай барацьбы, якая адбываецца на беларускіх землях. Пашырэньне тэматыкі ў гэтым кірунку моцна зблізіла б творчасьць маладога песьняра да шырокіх кругоў перадавой беларускай вясковай інтэлігенцыі, зрабіла б яе больш блізкай, сваей і зразумелай.

Трэба яшчэ адзначыць акуратнасьць выданьня: харошая каляровая вокладка, добры ўклад і папера, ды акуратная карэкта

*V.*

**Беларускі Календар на 1937 г.** Склаў Сяргей Сахараў. Латвія. Даўгаўпільс (Дзьвінск).

Пад рэдакцыяй б. дырэктара, б. Дзьвінскай Беларускай Гімназіі, С. Сахарава выйшаў з друку ў Дзьвінску „Беларускі Календар" (кніжка) на 1937 г. Календар мае намер абслужыць беларускае грамадзянства ў Латвіі. Рэдакцыя спадзяецца, „што кожны сьвядомы беларус спаткае яго прыхільна і дображадана". Спадзяваньні гэныя, здаецца, дарэмныя, бо зьмест календара яўна разьмінаец а з беларускімі нацыянальнымі патрэбамі і імкненьнямі агулам, а прадусім-жа з беларускімі інтарэсамі ў Латвіі. Проста, немагчыма, каб у пару, калі ўсё амаль беларускае арганізаванае жыцьцё ў Латвіі зьліквідавана, пісаць, што календар мае заданьне „служыць моцнаю сувязьзю паміж дзяржаваю (латвійскай — пр. н а ш.) і беларусамі". Непатрэбна надрукаваны так-жа ў ка-

лендары фальшывыя і пустыя фразэсы фашыстаўскіх кіраўніцоў латвійскай дзяржавы аб нацыянальнай палітыцы і такія заклікі, каб латвійскія беларусы „сваю працу згаджалі з карысьцяй латвійскай дзяржавы“ і ім падобн.

Агулам, у календары гэтым, апрача календарнай часткі, не калькі статыстычных цыфраў, інфармацыяў аб літоўскіх беларусах і вестак гаспадарчых, матар'ялу карысна-пазытыўнага бадай няма. Затое шмат яшчэ мае каляндар заганаў з боку мовы і правапісу, асабліва ў матарыялах друкаваных лацінікай. Трэба шкадаваць, што цяпер, пры ад сутнасьці беларускага друкаванага слова ў Латвіі, першы блін— „Беларускі Календар на 1937“ г.— выйшаў комам, цяжка страўным для беларускага нацыянальна-здаровага грамадзянства ў Латвіі і за яе межамі!

Ад грам. С. Сахарава можна было спадзявацца лепшага календара! *Чытач.*

**Biełaruski Narodny Kalendar (knižka) na 1937 h.** Vydańnie Kniharni „Nadzieja“ ŭ Vilni. C. 15 hr.

Žmiest hetaha kalendara bied navaty, a vydańnie tandetnaje, z adbitkami vydanych paru hod tamu nazad knižak. Hetak vydavać biełaruskija kalendary ŭ Vilni, u sučasny mament užo stydnavata.

*М. Мілючанка* — **Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі.** Рэфэрат чытаны на вечары прысьвячаным Цётцы, у 0-я ўгодкі яе сьмерці, у Вільні дня 22 XI.1936 г. і друкаваны ў №№ 12 98) і 13 99) „Шл. Мол.“ Выданьне „Шляху Моладзі“ Вільня, 1936 г. Бач. 16 з партрэтам Цёткі. Фар. 8⁰. Ц. 25 гр.

*Wałakas*—**Try daktary na adnu płamku.** Kamedyja ŭ adnym akcie. Żbiełaruščyŭ M. Š Biełaruskaja Teatralnaja Knižnica. Wilnia 1937 h. Bač. 28. Farm. 16⁰ C. 45 hr.

*Narodnaja Knižnica* ŭ Vilni niadaŭna, ŭ 1937 hodzie, vydała niekalka zbornikaŭ biełaruskich narodnych pieśniaŭ (biaz notaŭ). Voś ich nazovy:

**Śpieŭnik najcikaŭšych biełaruskich narodnych pieśniaŭ.** Bač. 63. Farm. 16⁰. Cana 25 hr.

**Baba Jeŭka Dzied Tamaš i inšyja biełaruskija narodnyja pieśni.** Bač 31. Farm. 16⁰. Cana 25 hr.

**Lawonicha i inšyja biełaruskija narodnyja pieśni.** Bač. 16. Farm. 16⁰. Cana 20 hr.

**Čamu-ž mnie nia pieć.** Śpieŭnik biełaruskich narodnych pieśniaŭ. Bač. 32. Farm. 16⁰. Cana 25 hr


КУПЛЯЙЦЕ! КУПЛЯЙЦЕ!

**Беларускі Сялянскі Календар на 1937 г.**
**bač. 112.**

**Žmiest kalendara: kalendoryjum i važniejšyja jubilei, jak biełaruskija, tak i ahulnyja, addzieł gieografičny, ekanamičny i histaryčny ab Biełarusach, cełу rad artykułaŭ ab sielskaj haspadarcy, lekarskaja pomač, roznyja parady, bahaty infarmacyjny addzieł i roznyja abviestki ab bieł. arhanizacyj, achčasapisach i ustanovach. Kalendar wydany hraždankaj. Cana 50 hr. Chto kuplaje bolš — wialikaja ŭstupka.**

**Hałoŭny skład: Biełaruskaja Kniharnia „P A H O N I A“, Vilnia, Zavalnaja vul. № 1—2.**

**Spynieńnie „Biełaruskaj Krynicy.“** Vilenski Akružny Sud 18 XII 1936 h. na svaim haspadarčym pasiedžańni, na prapanovu Vil. Haradz. Starastva, spyniŭ najstarejšuju sučasnuju bieł. hazetu „Biełaruskaja Krynica,“ jakaja vychodziła ŭžo 20-ty hod. Paśla spynieńnia, u redakcyi „Bieł. Krynicy,“ 23 XII.36 adbyłasia revizija. Ad pastanovy Akruž. Sudu padana Apelacyja. Paśla hetaha redaktar i vydaviec „B. Krynicy“ rabili starańni vydavać nov ja biełaruskija hazety — spačatku „Narodnuju Krynicu,“ a paśla „Biełaruskaje Vieča,“ adnak Starastva i heta zabaraniła.

**„Biełpres.“** Pad hetkim nazovam u Vilni paŭstała biełaruskaja vydavieckaja supałka, jakaja maje na mecie dalej vydavać „Samapomač,“ „Chr. Dumku“ i inšyja časapisy i knižki. Da hetaje supałki ŭvajšło i našaje vydaviectva „Šlachu Moładzi,“ katoramu sapraŭdy ciažka było vykuplać tolki dla ad naho „Šlachu Moładzi“ „śviadectva pramysłov je,“ čaho vymahali skarbovyja ŭłady.

**Aŭtarski viečar Natalli Arsieńnievaj.** U studzieni m-cy sioleta v edamaja bieł-ruskaja paetka Natalla Arsieńnieva, katoraja stała žyvie na čužynie, pryjechała ŭ Vilniu ŭ adviedziny da svaje matki. U suviazi z hetym Biełaruski Studencki Sajuz i T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedyładzili 17 I 37 aŭtarski viečar Natalli Arsieńniavaj, u časie jakoha dr. Stanisłaŭ Stankievič prač taŭ starannа apracavany referat ab jaje tvorčaś i, a paśla sama paetka čytała svaje niedrukavanyja dahetul vieršy, jakija sabranaja moładź i starejšaje hramadzianstva pryjmała hučnymi voplleskami. Na zakančeńnie studenty padali paetcy pryhožy bukiet žyvych krasak. Paśla hetaha vilenskija bieł. litaratary pryjmali N Arsieńniavu harbatkaj, ažyŭlenaj dyskusijaj na litaraturnyja temy. Usiudy-ž nastroj byŭ miły i sympatyčny.

**„Čechasłavaččyna, — kraj i ludzi.“** 24.I. s. ol Vilenski Addzieł Biełaruskaha Narodn. Ab'jednańnia (Zavalnaja 1 — 1) ładziŭ pub ičnuju lekcyju inž. A. Klimoviča na temu: „Čechasł vaččyna, kraj i ludzi“.

**Pasiedžańnie Nahladnaje Rady Bieł Banku.** 9 I.37 adbyłosia pasiedžańnie Nahladnaje Rady Biełaruskaje Kredytnaje Kooperatyvy (Biełaruskaha Banku), na jakim, miž inšym, vybrany trecim siabram upravy Kooperatyvy mgr. J. Šutovič.

**Biełaruskija Kaladki.** U časie nabaženstva dla biełarusaŭ katalikoŭ ŭ kaściele śv. Mikałaja, Kaladami, chor śpievaŭ bieł-ruskija kaladki. Apračа hetaha biełaruskija kaladki śpiavaŭ u Pračyścienskim Sabory chor hram R. Šyrmy. Treba zaznačyć, što pryhožyja našyja kaladki chor hram. R. Šyrmy vykanaŭ pamastacku i hetym samym ściahnuŭ ŭ sabor masu narodu.

**Našy paety chvarejuć.** 24.I. viedamy bieł. paet J. Bylina, chvory na suchoty, vyjechaŭ na leki ŭ Zakapanaje. Słaboje tak ža zdaroŭje i M. Tanka, katory niadaŭna vyježdžaŭ na leki u sanatoryju ŭ Atvock kala Varšavy. — Žadajem im jak najchutčej vyzdaravieć.

**Jury Kepiel ažaniŭsia** 12.I. 37 Ks. Ad. Stankievič u kaściele Bernadynaŭ u Vilni daŭ šlub viedamamu biełaruskamu spartoŭcu Juramu Kepielu z hram. V. Burhardt. Maładoj pary žadajem usiaho najlepšaha.

**Jołku dla bieł. vučnioŭskaje moładzi** 14.I.37 ładziła Pedahahičnaja Rada Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii ŭ zali hetaje-ž himnazii.

# USIAČYNA

— U pieršych troch kvartałach min. hodu ŭ Polščy było: 1404 zabojstvy, 15,726 kražaŭ. U hetym-ža časie zhinuła dvuch palicyjantaŭ, a palicyja zabiła 83 asoby. U paraŭnańni z 1935 h. hodam prastupstva ŭ minułym hodzie pavialičyłasia.

— Ad času paŭstańnia łahieraŭ adasableńnia ŭ Berezie Kartuzkaj da siańnia prabyvała tam 410 kamunistaŭ, 227 siabroŭ Ukrainskaje Nacyjanalistyčnaje Arhanizacyi, 64 polskich nacyjanalist ŭ, 6 polskich „ludoŭcaŭ", 15 kryminalistaŭ i 3 lichviaroŭ.

— Pry Lizie Narodaŭ isnuje Kamitet baraćby z kryzysam, katory niadaŭna apublikavaŭ statystyku, pavodle katoraje ŭ minułym hodzie 2,400,000 ludziej pamiorło z hoładu, a 1,200,000 papoŭniła samahubstva z pryčyny biady i hora.

U hetym samym časie kapitalistyčnyja haspadarčyja sajuzy, kab nie dapuścić da abnižki cenaŭ na ziemlarobskija pradukty źništožyli 2,500,000 klg. cukru, 568 vahonaŭ zbožža, 144,000 vahonaŭ ryžu, 267.000 vahonaŭ kavy, apрača taho jak apał spalena 432,000 vahony zbožža, a 600,000 centnaraŭ miasa zmarnavałasia ŭ kańservach. Ahułam źniščana 8 438.8 0,000 klg. praduktaŭ, jakich chapiła dla tych, što zhinuli z hoładu na bolš jak try hady žyćcia. — Voś što robiać kapitalisty.

— Trocki vyjechaŭ z Norvehii ŭ Meksyk, dzie miž inšym zajaviŭ, što chutka budzie novaja suśvietnaja vajna.

— Pavodle apošnich padličeńniaŭ, na ŭsim śviecie jość 3,148,000 kamunistych i 6,800,000 kamsamolcaŭ.

— U Niamieččynie adčuvajecca niedachop praduktaŭ, asabliva miasa i masła. Usio pajeli samaloty i harmaty.

— Anhlija apošnim časam kładzie vialiki nacisk na ŭvaružeńnie.

— U Francyi miž sacyjalistami i radykałami a kamunistami, katoryja supolnym frontam jšli na vybary ŭ parlamant, znachodzicca što-raz bolej razychodžańniaŭ. Zaŭvažvajecca tak-ža asłableńnie družby Francyi z Savietami, a zaciśnieńnie z Anhlijaj. Z hetaj apošniaj Francyja supolna vystupaje asabliva suproć Niemcaŭ, jakija praz hišpanskija kalonii ŭ Maroko lezuć u Afryku i nahaniajuć strachu jak Francyi, tak i Anhlii.

— U Kitai Čanh-Su-Lianh pajšoŭ na ŭstupki, pahadziŭsia z Čank-Kaj-Šekam i paśla hetaha nastupiła ŭspakajeńnie.

— U Vilni ŭ Kurlandzkaj alejarni, pry mašynach uzarvalisia hazy, pry hetym zhinuła 3 čałavieki.



Najbolšaje miesta na śviecie Niu-Jork (10 miljonaŭ žycharoŭ) z mastami nad rekaj Hudson.

# PAŠTOVAJA SKRYNKA

Дубку. Прысланыя вершы, нажаль, слабенькія і да друку не падходзяць. Думка ў іх часта неясная, строфы кульгавыя—патрабуюць яны шмат паправак. Прышлеце болей, стараючыся ляпей апрацаваць; пры гэтым зьвярніце ўвагу на граматыку і правапіс. Папрабуйце таксама пісаць прозай. За мілыя пажадан ні „Ш.М.“, якія друкуем, шчыра дзякуем.

Міхасю Лісту. Пішэце. Высьцерагайцеся толькі русыцызмаў і полёнізмаў, якіх у прысланых вершах вельмі шмат, і якія друкаваньне верша робяць немагчымым. Дзеля гэтага старайцеся ляпей пазнаць беларускую мову, граматыку і правапіс, чытаючы беларускую літаратуру.

Р—к: Вашы вершы атрымалі мы ад „Калосься“ з такой ацэнай: верш „Паэзія...“ даўгі разьмерам, сэнсам слабаваты, поўна русыцызмаў. Аб коопэрацыі, якая ёсьць рэчай добрай, лепш пісаць прозай, а ня вершам. Верш „Штогод...“ вызначаецца тэхнікай вершаваньня. Агулам мляўкі, няясны. Выражае нічым неабаснаваны пэсымізм. Верш „Аднойчы“ таксама слабаваты.

Янку Каліне. Карэспандэнцыю надрукавалі. Апавяданьне слаба апрацавана. Радзім лепш пазнаць беларускую граматыку і больш чытаць бел. кніжак.

В. Х. Атрымалі. дзякуем, у меру магчымасьці будзем старацца выкарыстываць.

Савачцы: Атрымалі, дзякуем, як бачыце, друкуем. Просім пісаць часьцей.

Я. Рамялевічу: Вашы вершы да друку не падходзяць, ані ў „Шлях Моладзі.“ ані аддзельна ў кніжцы. Друк 16-ці бачын вершаў ад 100 да 1000 экзэмпляраў з паперай будзе каштаваць каля 50 зл.

М. Мірск: Вершы слабыя, многа русыцызмаў, да друку не надаюцца. Радзім перадусім пазнаць добра беларускую граматыку і правапіс.

В. Ж.: Вершы слабаватыя і да друку не падходзяць. Артыкул будзем старацца выкарыстаць. Пяра ня кідайце, пішыце і як найбольш чытайце бел. кніжак.

Я. Крызе: Адзін з атрыманых вершаў, як бачыце, друкуем, рэшта слабейшыя—адкладаем.

Астапчуку: Вершы слабыя, радзім пісаць прозай.

Б. Камароўскаму: За пажаданьні шчырая падзяка. „Шл. Мол.“ высылаем, у іншых справах нічога ня можам памагчы.

П. Ластаўцы: „Зьвястаўніка“, нажаль, ня можам надрукаваць, бо ў нас ён надта-ж многа заняў-бы месца і абцяжыў-бы нумар. Прывітаньні!..

Я. Ч—каму: За прысланыя карэспандэнцыі падзяка. Усё выкарыстаем.

Н. Жальбе: Атрымалі, дзякуем. Адзін верш друкуем, будзем таксама старацца выкарыстаць гутаркі.

Ул. Каз—вічу: Адзін верш Ваш друкуем, рэшта слабаватыя. Просім пісаць часьцей.

Маладому Дубку: Зьмест вершаў добры, але апрацавана ён вельмі недбайна і вершы выйшлі слабенькія.

А. Чаромхіну. У Вашых вершах колькасьць слоў большая, чым патрэбна — верш цягнецца доўга, а сказана ў ім мала. Форма слабаватая: пераўнаньні няўдалыя, мера ня вытрымана. Вершы патрабуюць лепшай апрацоўкі.

П. Грышовічу: Вершы слабыя, карэспандэнцыі выкарыстаем.

С. Хмары: Адзін верш друкуем, іншых-жа ня можам з прычын цэнзуральных. У наступным нумары дамо Вам абшырнейшы адказ.

*З новым 1937 годам павялічваем разьмер „Шляху Моладзі“, а гэты нумар 1 (100) выдаём у два разы большым. Адначасна просім усіх акуратна аплачваць падпіску і пашыраць наш часапіс.*

*Выдавецтва „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“.*

*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар Я. НАЙДЗЮК

1964 г.